*Зянон Пазьняк: «Давайце шукаць не ворагаў, а сяброў. Ворагі нас знойдуць самі». (стар. 4)*

*Сергей Левшунов: «Референдум: решение не состоялось». (стар. 5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 41.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

14 траўня 1996 г. | № 34 | Кошт свабодны

## Шаснаццатыя суткі ў турме на Валадарскага Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык трымаюць галадоўку, пратэстуючы супраць незаконнага арышту

*Паводле звестак рэдакцыі, сёння, 14 траўня, а 17-й гадзіне каля рэзідэнцыі прэзідэнта ў Мінску (вул. К.Маркса, 38) будзе праведзена акцыя з патрабаваннем вызваліць палітычных зняволеных*

## Злучаныя Штаты заклапочаныя становішчам з правамі чалавека ў Беларусі

**Як паведамляе амерыканскае інфармацыйнае агенцтва NCA, Злучаныя Штаты выказалі вялікую заклапочанасць тым, што ў Беларусі працягваюцца парушэнні правоў чалавека.**

Прэс-сакратар Дзяржддэпартамента ЗША Нікалас Бэрнс заявіў у чацвер 9 траўня, што Вашынгтон "шматразова ўздымаў пытанне пра парушэння правоў чалавека ў Беларусі з афіцыйнымі асобамі беларускага кіраўніцтва як у Мінску, так і ў беларускай амбасадзе ў Вашынгтоне".

Ён сказаў, што апошнія перамовы датычылі арышту лідэра апазіцыі Юрыя Хадыкі і што з моманту яго затрымання 27 красавіка ЗША падымалі гэтае пытанне некалькі разоў.

Ю.Хадыка, намеснік лідэра Народнага Фронту, праз два дні пасля арышту абвясціў галадоўку. На гэтым тыдні яго фармальна абвінавацілі ў арганізацыі антыўрадавага шэсця і парушэнні грамадскага парадку. Калі Хадыку прызнаюць вінаватым, ён можа атрымаць да 3 гадоў турмы.

Гэтае шэсце было сабранае, каб адзначыць 10-ю гадавіну Чарнобыльскай ядзернай катастрофы. Яно скончылася адчайнай сутычкаю з паліцыяй. Каля 50 чалавек было паранена і 200 дэманстрантаў арыштавана.

Бэрнс нагадаў, што 2 красавіка апазіцыя праводзіла іншае антыўрадавае шэсце, каб заявіць пратэст супраць палітыкі інтэграцыі з Расіяй, якую праводзіць прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Бэрнс сказаў, што Злучаныя Штаты выказваюць "вялікую заклапочанасць тым, як урад паставіўся да апошніх дэманстрацый у Мінску, а таксама арыштам Юрыя Хадыкі і іншых асоб, якія выказвалі свой пратэст".

Ён абвергнуў сцвярджэнне, зробленае ў чацвер (9 траўня) у газеце *Washington Post*, нібыта ўрад ЗША замоўчвае рэпрэсіі ў Беларусі, таму што ён саступае жаданню Расіі аднавіць былы Савецкі Саюз. *(СВАБОДА перадрукоўвае сёння гэты артыкул).* Бэрнс недвухсэнсоўна заявіў, што "ніякім чынам і ні ў якой форме Злучаныя Штаты не выказвалі згоды ці падтрымкі, каб Беларусь шукала любых шляхоў аб'яднання з Расіяй". Аб поглядах ЗША на распад СССР ён выказаўся наступным чынам: "Калі адна краіна распадаецца на 15 — гэта вельмі добрая рэч і вельмі пазітыўная. І мы б хацелі, каб гэта так і заставалася".

Бэрнс сказаў, што адносіны паміж ЗША і Беларуссю ўскладніліся з прычыны парушэння там правоў чалавека, а таксама ў выніку "абуральнага забойства амерыканскіх спартсменаў на паветраным шары". Бэрнс нагадаў, што гэта здарылася ў верасні мінулага года: два амерыканцы, якія ўдзельнічалі ў спаборніцтвах на паветраных шарах, загінулі, калі іх шар быў збіты беларускімі паветранымі сіламі, а яшчэ чатыры чалавекі былі затрыманыя і зняважаныя ўладамі. ЗША заяўлялі пратэст з прычыны інцыдэнту, але так і не атрымалі належных прабачэнняў і прызнання адказнасці з боку Мінска.

"У нас ужо былі пэўныя праблемы з урадам Беларусі", — сказаў Бэрнс і дадаў, што ЗША заўсёды адкрыта выказваюць Мінску сваю заклапочанасць. Ён падкрэсліў, што Беларусь падверглася суровай крытыцы ў апошняй сусветнай справаздачы па правах чалавека, якія штогод складаюць Злучаныя Штаты. У гэтай справаздачы адзначаецца, што Беларусь парушае міжнародныя стандарты правоў чалавека літаральна ў кожнай катэгорыі, што Лукашэнка няўхільна канцэнтруе ўладу, адмаўляецца супрацоўнічаць з парламентам і выкарыстоўвае сілы міністэрства ўнутраных спраў і КДБ супраць апазіцыі. Бэрнс звярнуў увагу на тое, што гадавая справаздача таксама падвяргае крытыцы беларускі ўрад за абмежаванні свабоды сходаў, дзеянні супраць свабодных прафсаюзаў і ўціск прэсы. У справаздачы гаворыцца, што ўрад Беларусі ўсталёўвае сапраўдную манаполію на прэсу і што агульны стан захавання правоў чалавека працягвае пагаршацца.

**С.ВІНТЭР**

## Washington Post пра рэпрэсіі ў Мінску

*Гэты артыкул быў змешчаны ў амерыканскай газеце 9 траўня*

Юрый Хадыка, ветэран барацьбы за свабоду ў Беларусі, з 27 красавіка знаходзіцца пад арыштам за акцыю пратэсту супраць яднання яго краіны з Расіяй. Урад ЗША, які субсідуе беларускі рэжым, чамусьці маўчыць, а не пратэстуе.

Ю.Хадыка, 58-гадовы выбітны мастацтвазнаўца, быў актыўным барацьбітом супраць камуністычнай тыраніі ў той час, калі Беларусь з'яўлялася часткай Савецкага Саюза. У якасці віцэ-старшыні Беларускага Народнага Фронту ён працягваў барацьбу супраць рэпрэсій прэзідэнта Лукашэнкі ў незалежнай Беларусі. Цяпер Хадыку пагражае 3 гады зняволення за арганізацыю акцый, якія выклікалі парушэнне грамадскага парадку.

Мэтай заключэння Хадыкі, як сказаў мне былы амерыканскі пасол Дэвід Шварц, — пазбавіць энтузіязму далейшае выражэнне пратэсту супраць палітыкі Лукашэнкі па яднанню з Расіяй для аднаўлення Савецкага Саюза. "Цяперашні ўрад не хоча мірыцца з вальнадумствам", — дадаў Шварц, які мае 28-гадовы стаж работы ў знешнепалітычным ведамстве ЗША і які ў 1994 годзе падаў у адстаўку ў знак пратэсту супраць таго, што адміністрацыя Клінтана не выказвае рэзкага пратэсту дзеянням мінскага рэжыму.

Уцечка дакументаў і дыпламатычныя крыніцы пралíваюць святло на тое, што прэзідэнт Клінтан і дзяржсакратар Уорэн Крыстафер даюць "зялёную вуліцу" расійскаму прэзідэнту Барысу Ельцыну, каб той, імкнучыся да ўласных перавыбараў, праводзіў рэінтэграцыю састаўных частак былога СССР. Ці будзе з такіх пазіцый адміністрацыя Клінтана ўмешвацца, калі ў Беларусі пераследуецца апазіцыя? Адказ адзін — не будзе.

Гэтую дылему ілюструе рэакцыя Дзяржддэпартамента. Адзін яго высокапастаўлены чыноўнік сказаў мне, што "мы падтрымліваем свабоду сходаў, падтрымліваем свабоду слова і асуджаем парушэнні гэтых свабодаў" у гэтай былой савецкай рэспубліцы, якая стала партнёрам ЗША. Але ён заявіў, што не ведае пра арышт Хадыкі. Гэта можа быць дыпламатычнай ўлоўкай, улічваючы, што аб'яднанні амерыканскіх беларусаў сцвярджаюць, што яны апелявалі менавіта да гэтага чыноўніка наконт арышту Хадыкі.

Хадыка стаў ахвяраю былой камуністычнай тыраніі, якая адраджаецца цяпер у постсавецкіх дзяржавах. Прэзідэнт Лукашэнка — кар'ерны камуністычны бюракрат, які раней кіраваў саўгасам, марыць аб вяртанні дыктатуры. Ён выказвае захапленне метадамі Адольфа Гітлера і імкнецца кіраваць указамі, ігнаруючы парламент, абранню якога ён супрацьстаяў.

Лукашэнка хацеў бы поўнай інтэграцыі з Крамлём пад кіраўніцтвам аднаго з аўтарытарных канкурэнтаў Ельцына, але яго таксама задаволіць і Расія пад кіраўніцтвам самога Ельцына (прынамсі, цяпер). Беларускі прэзідэнт быў абураны, калі 20 тысяч дэманстрантаў у цэнтры Мінска 2 красавіка выказалі пратэст супраць пакта, падпісанага ў той дзень Ельцыным і Лукашэнкам аб паглыбленні інтэграцыі паміж Расіяй і Беларуссю.

Калі гэтыя ж апазіцыйныя сілы арганізавалі яшчэ адну дэманстрацыю пратэсту з удзелам каля 30 тысяч чалавек 26 красавіка ў Мінску, каб адзначыць 10-ю гадавіну Чарнобыльскай ядзернай катастрофы, Лукашэнка не вытрымаў. Дэманстрантаў, праход якім па праспекце дазволіла міліцыя, сустрэў кардон "спецыяльных сіл". Дзесяткі мірных дэманстрантаў былі збітыя на вуліцах і больш за 200 чалавек было арыштавана. Большасць з іх абвінавацілі ў "адміністрацыйных правапарушэннях" і прысудзілі ад 3-х да 10 сутак арышту.

Па-іншаму паставіліся да Юрыя Хадыкі. Ён быў арыштаваны 27 красавіка і на працягу тыдня не меў сувязяў са знешнім светам (яму адмовілі ў сустрэчы з адвакатам і сям'ёй). Урэшце 4 траўня яму прад'явілі абвінавачанне.

Нягледзячы на хадайнічанне сямі вядомых дзячоў (сярод іх 4 члены парламента), якія гарантавалі, што ён з'явіцца ў суд, Хадыка застаецца за кратамі, тым часам як "расследаванне" можа цягнуцца мінімум два, а можа і ўсе шэсць месяцаў.

29-гадовы сын Хадыкі Аляксей з'яўляецца ў Беларусі прадстаўніком размешчанага ў Вашынгтоне Інстытута Крыбла, які пачаў ва Усходняй Еўропе барацьбу за дэмакратыю задоўга да распаду СССР. "Ці магчыма, каб амбасада ЗША выступіла з нотай (пратэсту)?" — запытаўся 2 траўня па электроннай пошце сын у штабкватэры Інстытута Крыбла.

Пакуль адказу няма. Калі для Клінтана было магчыма сустракацца з Ельцыным на апошнім саміце і не выказаць пратэсту супраць бойні ў Чачні, для яго не будзе цяжка заплюшчыць вочы на рэпрэсіі ў Беларусі. Уся ўвага амерыканскага прэзідэнта сканцэнтравана цяпер на тым, каб перавыбраць Ельцына на другі тэрмін, а ўжо пасля Клінтан будзе турбавацца развіццём падзеяў у іншых краінах былога Савецкага Саюза.

**Роберт НОВАК**

## Сем украінцаў сядзяць

**Паводле апошніх звестак, 7 грамадзян Украіны, якія былі затрыманыя пасля падзеяў 26 красавіка ў Мінску, усё яшчэ знаходзяцца пад арыштам.**

Пасля 15-ці сутак адміністрацыйнага пакарання іх не выпусцілі, а перавезлі са спецразмеркавальніка ў камеры следчага ізалятара на вул.Валадарскага.

Украінскі консул Усевалад Калацей паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што супраць гэтых сямі грамадзян Украіны (У.Салаўя, А.Шапціцкага, А.Дрыгайлы, А.Бурлака, В.Гоча, А.Міранюка, С.Патапава) мінская гарадская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу згодна з артыкулам 186 (3), які прадугледжвае да трох гадоў зняволення. Па словах консула, украінскае пасольства робіць "усё магчымае, каб абараніць інтарэсы грамадзянаў Украіны".

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## СВАБОДА – турэмны бестселер

**Арыштаваныя 26 красавіка дэманстранты, якія павыходзілі зараз на волю пасля 15-сутачнага затрымання, дзеляцца ўспамінамі і аднагалосна сцвярджаюць: "Нішто так не цанілася за кратамі, як інфармацыя з волі".**

Вось толькі здабыць гэтую інфармацыю было надзвычай цяжка. Пра газеты, радыё ды тэлебачанне вязням спецпрыёмніка на вул.Прылуцкай сказана было нават не марыць. І ўсё ж 20 арыштантам, якія сядзелі разам у адной з камер, на пяты дзень тэрміну пашанцавала — аднаму з іх сваякі перадалі свежы нумар СВАБОДЫ, загарнуўшы ў газету кавалак сала. Турэмны наглядчык, відаць, быў такі сыты, што не пажадаў нават дакрануцца да тлустай паперы. У выніку гэтага парушэння інструкцыі ў турму трапіў нумар СВАБОДЫ з падрабязнай інфармацыяй аб падзеях 26 красавіка і водгуках на іх у Беларусі і ў свеце.

Як сцвярджаюць былыя арыштанты, газета стала для іх глытком свежага паветра. СВАБОДУ амаль што вывучылі на памяць, а выходзячы на волю, перадалі "нашчадкам" у якасці галоўнага турэмнага рарытэту.

**Вераніка ТРЫЗНА**
***(дачка аднаго з тых, хто чытаў СВАБОДУ ў няволі)***

**Калі вы хочаце гарантавана атрымліваць кожны нумар нашай газеты, найлепшы варыянт — аформіць падпіску. Цяпер якраз праводзіцца падпісная кампанія на II паўгоддзе 1996 г. Выпісаць СВАБОДУ можна ў любым паштовым аддзяленні. Наш падпісны індэкс 63887.**

Кошт падпіскі:
1 месяц — 10.000 руб.
3 месяцы — 30.000 руб.
6 месяцаў — 60.000 руб.
Падпіска завяршаецца **15** чэрвеня.

РЭЙТЫНГ

**Хто з палітычных і грамадскіх дзеячоў Рэспублікі Беларусь выклікае ў вас найбольшы давер?**

| | % з ліку апытаных |
|---|---|
| Лукашэнка А. | 20,84 |
| Пазьняк З. | 5,71 |
| Шушкевіч С. | 4,55 |
| Багданкевіч С. | 2,73 |
| Мясніковіч М. | 1,32 |
| Ганчар В. | 1,08 |
| Шарэцкі С. | 1,08 |
| Новікаў В. | 0,99 |
| Кебіч В. | 0,83 |
| Ціхіня В. | 0,66 |
| Сянько У. | 0,50 |
| Карпенка Г. | 0,33 |
| Чыгір М. | 0,33 |
| Краўчанка П. | 0,25 |
| Гілевіч Н. | 0,17 |
| Няма адказу | 63,85 |

**Гэта вынікі сацыялагічнага даследавання, якое было праведзена ў сакавіку-красавіку 1996 г. Беларускім камерцыйным універсітэтам кіравання і Цэнтрам маркецінгавых і сацыялагічных даследаванняў.**

**Звесткі атрыманы ў выніку рэпрэзентатыўнага выбарачнага рэспубліканскага апытання 1.203 рэспандэнтаў.**

# «Гэтая ўлада не вечная»

**Сойм партыі Беларускага народнага Фронту прыняў "Зварот да супрацоўнікаў міліцыі, пракуратуры і судоў".**

"Прэзідэнт Лукашэнка не здольны кіраваць краінаю пры дапамозе дэмакратычных, законных мэтадаў. Беларусь становіцца запаведнікам беззаконня, у краіне пануюць малаадукаваныя, непрафесійныя, несумленныя стаўленнікі прэзідэнта. Дзеля захавання ўлады Лукашэнка гатовы на ўсё: прадаваць незалежнасьць краіны, выкручваць рукі Канстытуцыйнаму суду і Вярхоўнаму Савету, збіваць дэпутатаў, незаконна забараняць непажаданыя яму партыі і прафсаюзы, сілай распраўляцца з людзьмі, якія пратэстуюць супраць беззаконня, саджаць у турму не згодных з ягонаю палітыкай." "Мы з трывогай бачым, — гаворыцца далей у звароце, — што частка прадстаўнікоў праваахоўных органаў, апынуўшыся перад выбарам "закон ці лукашэнкаўскі загад", выконвае незаконныя загады. Мы хочам напомніць: гэтая ўлада не вечная. Лукашэнку яшчэ спасцігне расплата за тое, што ён робіць. І ўсе, хто сёння са страху або дзеля кар'еры выслужваецца перад Лукашэнкам, хто выносіць незаконныя прысуды, хто рыхтуе і выконвае правакацыі супраць мірных дэманстрантаў, хто шукае фальшывыя падставы для забароны апазіцыйных партый, — усе яны не пазбегнуць справядлівага суда пасля таго, калі сыдзе дыктатарскі рэжым."

# Грамада атрымала папярэджанне

**Услед за Народным Фронтам афіцыйнае папярэджанне ад міністэрства юстыцыі атрымала і Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада.**

Папярэджанне вынесена за тое, што падчас першамайскай дэманстрацыі, арганізатарам якой была Грамада, у калоне выкарыстоўвалася "незарэгістраваная сімволіка".

**Б.П.**

# Гродна: пікеты ў падтрымку арыштаваных

**У Гродне 8, 10 і 12 траўня на Савецкай плошчы быў выстаўлены пікет.**

Так гарадская філія БНФ арганізавала падтрымку арыштаваным у Мінску сваім аднапартыйцам Хадыку і Сіўчыку. Пікетчыкі трымалі бел-чырвона-белыя сцягі, плакаты, а таксама збіралі подпісы з патрабаваннем вызваліць арыштаваных. Некалькі сотнень гараджан падпісаліся пад гэтай заявай.

**С.А.**

# Інцыдэнт на плошчы Перамогі

**9 траўня ў Мінску, праз дзве гадзіны пасля заканчэння афіцыйнага ўскладання кветак да помніка Перамогі, адбылася сутычка паміж міліцыянтамі і ветэранамі з Дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў.**

Варта было толькі групе ветэранаў, якія ўскладалі кветкі да помніка Перамогі ад імя сваёй арганізацыі, падняць над сваімі сівымі галовамі бел-чырвона-белы сцяг, як да іх падскочылі міліцыянты з дубінкамі. Крыкі "Што вы робіце!", "Не чапайце ветэранаў!" не спынілі "мужных" барацьбітоў з нацыянальнай сімволікай, і яны пачалі вырываць сцяг з рук прафесара М.Савіцкага. А паколькі гэтыя дзеянні не выклікалі авацыяў у публіцы, на дапамогу міліцыянтам выскачылі з падземнага пераходу яшчэ з дзесятак амонаўцаў, якія жорстка прадэманстравалі ветэранам, хто на плошчы Перамогі сапраўдны пераможца.

"Я ішоў да помніка, каб ушанаваць памяць маіх палеглых сяброў, усіх ахвяраў фашызму. І за гэта мяне, удзельніка вайны, так абразілі. Сорам мець такую ўладу", — сказаў вядомы пісьменнік Артур Вольскі. А адна з жанчын, якая прыйшла ў групе ветэранаў пад бел-чырвона-белым сцягам, не хаваючы слёз, гаварыла: "Больш я сюды ніколі не прыйду. Лепш на 9 траўня паеду на магілу свайго таты, які таксама аддаў жыццё за перамогу..."

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*На здымку: амонавец абматваецца сцягам, каб вырваць яго з рук ветэранаў*

# Партрэт – ён і ў Афрыцы партрэт

**Польскія ўлады лічаць беспадстаўнымі прэтэнзіі беларускага боку, якія заявіў пратэст з прычыны акцыі, што была праведзена каля консульства РБ у Беластоку 1 траўня.**

Прэс-сакратар польскага МЗС Павел Дабравольскі сказаў, што арганізатары і ўдзельнікі пікета каля консульства РБ ніякім чынам не парушылі закон і грамадскі парадак. Сп.Дабравольскі таксама не пагадзіўся з меркаваннем беларускага боку, які ацэньвае факт спалення партрэта прэзідэнта Лукашэнкі як знішчэнне нацыянальнага сімвала.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# У інвалідаў набалела

**На дзень Перамогі ў Заслаўі, што каля Мінска, да ўдзельнікаў святочнага мітынгу выйшлі з "несанкцыянаванымі" плакатамі актывісты мясцовай арганізацыі інвалідаў.**

"Ратуйце інвалідаў!", "Інваліды галадаюць!", "Не адключайце гарачую ваду!" — было напісана на самаробных плакатах. Асобны лозунг "Далоў Чарнышову!" быў прысвечаны старшыні мясцовага гарвыканкама, якая займае гэтую пасаду другі год.

Яе крытыкуюць за тое, што "ўжо паспела пабудаваць сабе катэдж, пракласці да яго асфальт і правесці ваду, у той час як гарадская гаспадарка прыходзіць у заняпад". Так заяўляюць удзельніцы пікета Галіна Ціхановіч і Нэлі Рыдзеўская. У іх выклікае абурэнне стаўленне мясцовай улады да інвалідаў. Напрыклад, штомесяц затрымліваюцца і без таго маленькія пенсіі. Ці такая прэтэнзія: інвалідам не дапамагаюць падключыць свае тэлевізары да звычайнай антэны, а за камерцыйную ім няма чым плаціць. Рэгулярна адключаюць гарачую ваду — чарговае адключэнне, як яны лічаць, працягнецца да лістапада, як у мінулым годзе.

Гэта прэтэнзіі агульнага кшталту. А ёсць яшчэ асабіста пакрыўджаныя: аднаму інваліду, які ходзіць на пратэзах, не даюць паставіць гараж побач з домам. У жанчыны-інваліда выкінулі на вуліцу інвалідную каляску —"нельга трымаць у пад'ездзе". І гэтак далей.

"Замест таго, каб змагацца з намі, лепш бы дамовіліся, каб усе 120 заслаўскія прадпрыемствы і фірмы ўзялі шэфства над інвалідамі, на кожную арганізацыю выпадзе ўсяго па 3 чалавекі, — кажа Нэлі Рыдзеўская. — А то атрымліваецца, што маці кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча, якая жыве тут у двухпавярховым катэджы, райсабес выдзеліў чалавека для дапамогі, а дзесяткі простых інвалідаў пакутуюць адны без дапамогі і ўвагі".

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

ФЕСТЫВАЛЬ

# Намеснік міністра культуры ведае, як з'эканоміць на дыпламатах

Першы беларускі фестываль нацыянальных культур адбудзецца у Гродне 24-26 траўня. На апошнім паседжанні аргкамітэта абмяркоўваліся калямастацкія пытанні.

## «Вялікая палітыка»

Адразу высветлілася, што не ўсіх задавальнае квота ў 25 удзельнікаў, якія павінны прадстаўляць кожную нацыянальную суполку. Зрэшты, ад беларускіх карэйцаў (і такія ёсць!) будзе менш — 23 асобы, а азербайджанцаў толькі 20. Затое літоўцы хочуць павялічыць свой удзел. Габрэі — таксама, прычым ажно на 97 чалавек, а палякі і ўвогуле на 110.

Што ж рабіць? У.Гілепу — намесніку міністра культуры, які вядзе нараду, адразу пачынаюць мроіцца міжэтнічныя сутыкненні на падворку гродзенскага каралеўскага палаца, дзе будуць выступаць ансамблі. Таму ён называе пытанне "палітычным" і патрабуе для ўсіх удзельнікаў роўныя ўмовы. Дык жа не толькі колькасць ды палітыка важныя, але і творчасць,— пачалі пярэчыць іншыя. Маўляў, адны суполкі ўзніклі даўно, маюць лепшыя творчыя сілы. І потым, татараў, напрыклад, на Беларусі 13 тысяч, а палякаў — 400 тысяч. Розніца істотная...

Але сп. Гілеп, памятаючы пра "вялікую палітыку", не здаецца. "Я не першы год замужам(?!)", — гаворыць ён. Калі ўдзельнікі выйдуць на парад і, напрыклад, карэйцаў у калоне будзе менш за палякаў... Карацей, калі верыць ягонаму чуццю, тут яўна папахвае "палітыкай". Незадаволеныя, аднак, нацiскалі, і намесніка міністра удалося ўламаць на дадатковую квоту. "Але хай толькі прыязджаюць за свой кошт", — папярэдзіў ён.

## Дыпламатыя

Само сабой, такое мерапрыемства хочацца правесці шумна. Каб банкет быў, а на ім не толькі самадзейныя танцоры і спевакі, але і госці паважней. Чаму б, да прыкладу, не запрасіць паслоў або міністраў тых дзяржаваў, мастацтва якіх будзе прадстаўлена на фестывалі: Ізраіля, Польшчы, Расіі? Але дзе ўзяць грошы на гатэль? Бо дыпламатаў, як вядома, трэба сяліць паводле іхняга рангу: нават не ў любым аднамесным нумары можна.

Зажурыўся аргкамітэт, не ведае, як выкруціцца. Самым спрактыкаваным аказаўся зноўтакі намеснік міністра. Ён прапанаваў такі варыянт. Трэба накіраваць у пасольствы не запрашэнні, а лісты з паведамленнем, што ў Гродне адбудзецца фестываль, які дыпламаты "маюць магчымасць наведаць". "Гэта вызваляе нас ад абавязку аплачваць ім гатэль. Карацей, з'эканомім, — тлумачыць сп. Гілеп. — Нічога страшнага. Самі за сябе заплацяць. Так у свеце робіцца".

## Прэса

Як жа з'эканоміць цяпер на журналістах? Самае лепшае — запрасіць толькі з БЕЛТА, а ўсе газеты надрукуюць іхнюю інфармацыю. Але ўсё ж вырашылі запрасіць 5-6 чалавек, а падумаўшы, дапісалі яшчэ двух. Цікава, што ў спіс не трапіў штотыдзёвік "ЛіМ", сама назва якога ўказвае на мастацкую тэматыку.

Але хай лімаўцы не зайздросцяць запрошаным. Бо арганізатары вырашылі так: будуць сродкі (а іх напэўна не будзе) — аплацім запрошаных журналістаў, а не — дык няхай самі выкручваюцца. А сп.Гілеп песімістычна дадаў: "Будуць толькі таптацца, прасіцца пераначаваць".

## «Музейная» тэхніка

"Напалеонаўскія" планы адносна эканоміі сродкаў разбурыла сталічная тэлежурналістка, якая прыедзе з брыгадай асвятляць фестываль. "Так как у нас старая техника, у нас будет много обслуги, всего человек 40", — напалохала яна арганізатараў (так напалохала, што ў іх адняло беларускую мову і яны нечакана пачалі раіцца ўжо па-руску).

## Вельмі залаты віцязь

Настрой арганізатараў зусім падупаў, калі яны даведаліся, што нацыянальныя танцы і спевы літаральна заб'е ў тэлеэфіры "Залаты віцязь" — даволі адыёзны кінафестываль, які будзе праводзіцца ў Мінску чамусьці ў гэтыя ж дні (пачынаючы з 24 траўня). Яму аддадзены і лепшы эфірны час, і лепшая тэхніка. І, зазначу, вялікія грошы. Так што нездарма арганізатары фестывалю нацыянальных культур, вобразна кажучы, імкнуцца з'эканоміць нават на запалках. Побач са славэтным (пресловутым) "Віцязем" гродзенскі фестываль рызыкуе стаць мерапрыемствам "для галачкі".

Але што зробіш, калі нашым кіраўнікам больш падабаецца "Залаты віцязь", дзе ім за так, за прыгожыя вочкі раздаюць кінематаграфічныя ўзнагароды. А вось у Гродне давялося б ім танчыць — лявоніху, цыганачку або габрэйскі танец. Праўда, прызы тут таксама будуць вельмі сціплыя.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

СВАБОДА
14 траўня 1996 г., № 34

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Парламенцкая памінальная

*Можна не здзіўляцца, калі на наступным мітынгу побач з лозунгам "Далоў Луку!" з'явіцца новы — "Далоў парламент!"*

Мы ўсе так доўга чакалі станаўлення, "нараджэння" парламента, што баяліся спалохаць яго хоць адным благім словам. Беларускае дэмакратычнае грамадства праводзіла гэтыя "роды" з апошніх сіл і цацкалася з Вярхоўным Саветам, як са свавольным, але родным дзіцём. Незалежная прэса выдавала авансы кіраўніцтву парламента і асобным фракцыям, мы амаль нікога не крытыкавалі, чакаючы, калі ж нашы дэпутаты займуць "свой пачэсны пасад" у структурах улады. Аднак прайшло чатыры месяцы, а Вярхоўны Савет не прадэманстраваў нічога, акрамя сваёй глыбокай і хранічнай імпатэнцыі. Калі зубкі не прарэзаліся за такі час, яны не вырастуць ужо ніколі. І цяпер дэмакратычным сілам варта задацца класічным пытаннем: "За што змагаліся?"

## Шарэцкі: «Бо я мужык...»

... За апошнія тыдні ў Вярхоўным Савеце ўсталяваўся рытуал, які, напэўна, павінен сімвалізаваць кранаючую еднасць беларускай выканальнай і заканадаўчай уладаў. Паважна аб'язджаючы чыгуннага Леніна, ля галоўнага ўвахода ў парламенцкі будынак спыняецца прэзідэнцкі аўтамабільны картэж. На ганку кіраўніка дзяржавы ўжо сустракае старшыня Вярхоўнага Савета. Аляксандр Лукашэнка і Сямён Шарэцкі доўга і горача цісну́ць адзін аднаму рукі, стараючыся адлюстраваць на сваіх тварах добразычлівасць і дружалюбнасць. У суправаджэнні світы ахоўнікаў, ажыўлена і зацікаўлена размаўляючы, прэзідэнт і спікер ідуць у залу паседжанняў. Можна быць упэўненым, што ў гэты дзень работа парламента будзе зладжанай і канструктыўнай...



Негледзячы на шырокую вонкава-псіхалагічную распаўсюджанасць такога тыпажу, фігура старшыні Вярхоўнага Савета, на маю думку, мае вялізныя шанцы стаць яркім персанажам народнай палітычнай творчасці. Назіраючы за дзейнасцю Сямёна Шарэцкага, міжвольна ўзгадваецца слова "застой": сапраўды, чымсьці наш спікер няўмольна нагадвае незабыўнага Леаніда Ільіча. Прынамсі, адзін вершык успамінаецца адразу ж: "Брови чёрные, густые, речи длинные, пустые". Падчас некаторых апошніх выступленняў Шарэцкага склалася ўражанне, што ён не толькі не піша свае прамовы, але, магчыма, загадзя і не чытае іх. Як толькі заканчваецца "паперка", Шарэцкі выяўляе поўнае няўменне ўдзельнічаць у "жывой" дыскусіі, а яго адказы на дэпутацкія пытанні выклікаюць у лепшым выпадку іронію.

Беларускае грамадства ў свой час так доўга і апантана абмяркоўвала ролю і значэнне будучага спікера, што цяпер толькі застаецца здзіўляцца, наколькі несамавітай і палітычна нязначнай аказалася гэта фігура. Дэманстратыўнае яднанне Шарэцкага з Лукашэнкам фактычна ставіць яго палітычны аўтарытэт на адзін узровень з якім-небудзь чыноўнікам прэзідэнцкай адміністрацыі. Як высвятлілася, спікер няздольны зрабіць нічога, што магло б не спадабацца прэзідэнту — нават выканаць пастанову парламента і выступіць па тэлебачанні "з тлумачэнем пазіцыі Вярхоўнага Савета".

Публічныя візіты Шарэцкага на прадпрыемствы нагадваюць паводзіны правінцыйнага сакратара райкама, які нечакана атрымаў падвышэнне ў сталіцу, і просіць сваіх памочнікаў арганізаваць яму "сустрэчу з народам". Амаль нулявы рэйтынг старшыні Вярхоўнага Савета сярод насельніцтва — заканамернае і жорсткае сведчанне нездольнасці гэтага чалавека стаць яркім і самастойным палітыкам. Шарэцкаму застаецца толькі роля "вясельнага генерала" на розных міжнародных асамблеях і "добрага і справядлівага дзядулі" — на сустрэчах з ветэранамі.

Іміджу спікера можна было б не надаваць такога значэння, каб не адна сумная акалічнасць: у масавай свядомасці ўсялякі калектыўны орган заўсёды персаніфікуецца з яго кіраўніком, так што спікерскі "нуль" аўтаматычна перарастае ў "нуль" агульнапарламенцкі.

## «Згода»: кожны заўсёды дасць згоду

Пра гэтую фракцыю (а дакладней, дэпутацкае аб'яднанне) сказана ўжо даволі многа. Усе чамусьці з нецярплівасцю чакаюць, калі "Згода" разваліцца, разыйдзецца, так бы мовіць, па ідэйна-тэарэтычных перакананнях (нібыта яны ў "згоднікаў" ёсць). Аднак выглядае, што гэтая групоўка з кожным днём толькі мацней гуртуе свае шэрагі, аб'ядноўваючыся вакол універсальнай і адзіна для іх прыцягальнай ідэалогіі — ідэалогіі ўлады.

"Згоднікі" сапраўды вельмі розныя, і па дробных пытаннях яны могуць зацята змагацца паміж сабой, адстойваючы ўласныя прафесійныя альбо карпаратыўныя інтарэсы. Аднак па прынцыповых праблемах ніводзін з іх ніколі не асмеліцца пайсці супраць "бацькі" — для гэтага трэба было б адважыцца на ўласную палітычную кар'еру, на што пакуль не здольны ніводзін са "згоднікаў". Калі ж нейкі недастаткова свядомы вертыкальшчык пачынае сумнявацца пры галасаванні, за яго спіной адразу з'яўляецца памочнік прэзідэнта У. Канаплёў, які сваім гучным крыкам "Галасуем!" "дысцыплінуе" усю фракцыю. (Але яшчэ больш мне падабаецца, калі Канаплёў дае ўказанні праявіць актыўнасць самаму ідэйнаму "згодніку" — "Малаховский, выступи!") Так што максімум, на што разлічваюць "згоднікі" — гэта пад'ядаць кадравыя, фінансавыя ды іншыя крошкі з "бацькавага" стала.

## Камуністы: у чаканні сваёй чаргі

Не трэба таксама чакаць расколу ў гэтай палітычнай сіле, якая, я ўпэўнены, застанецца згуртаванай, прынамсі, да новых прэзідэнцкіх выбараў. Камуністам пакуль няма чаго дзяліць, бо ў іх няма ўсёй паўнаты ўлады. Калі яны яе атрымаюць, Лукашэнку вельмі многія пачнуць успамінаць як лiберала і непаслядоўнага незалежніка, як некаторыя цяпер успрымаюць Кебіча. На самой справе, камуністы дзеляцца не на "ўмераных" і "шалёных" (былі такія падчас Вялікай французскай рэвалюцыі), а на "шалёных" і "вельмі шалёных".

Паколькі сур'ёзных стратэгічных і ідэалагічных супярэчнасцяў з прэзідэнтам у ПКБ няма, яны з задавальненнем падтрымліваюць Лукашэнку па асноўных пытаннях. Пры гэтым лозунг камуністаў максімальна просты: "мы такія ж, як прэзідэнт, толькі яшчэ лепей". Калі Лукашэнка будзе і далей будаваць аўтарытарную дзяржаву з цэнтралізаванай эканомікай, камуністы скажуць яму "вялікі дзякуй" і возьмуць на выбарах краіну ў свае рукі.

## Дэмакраты: дэмакраты?

Апошнія падзеі ў Вярхоўным Савеце прымусілі засумнявацца, што ў Вярхоўным Савеце ёсць сіла, гатовая адстойваць дэмакратыю і незалежнасць краіны. Дэмакраты ў парламенце разам з іншымі дружна ратыфікавалі беларуска-расійскае пагадненне (нагадаем, 166 — за, 3 — супраць, адзін устрымаўся), у якім прадугледжваецца стварэнне наддзяржаўных структур улады, уніфікацыя грашова-крэдытнай і бюджэтнай сістэмы, агульная ахова межаў і г.д. "Грамадзянскае дзеянне", вядома ж, пераконвае сябе і сваіх выбаршчыкаў, што дамова 2 красавіка — усяго толькі дэкларацыя, і што ратыфікацыя адбылася б у любым выпадку. Гэта, канечне, так, але дэмакраты маглі хаця б пацвердзіць прынцыповасць сваёй незалежніцкай пазіцыі. Цяпер жа Лукашэнка, абапіраючыся на вынікі галасавання, будзе сцвярджаць, што ў беларускім грамадстве няма ніякай апазіцыі яго інтэграцыйным намерам.

Увогуле, часам ствараецца ўражанне, што "ГД" назвалася фракцыяй чыста для праформы. Некалькі эпізодаў паказваюць, што ў "Грамадзянскім дзеянні" няма не толькі цвёрдай дысцыпліны, але і нейкай агульнай стратэгіі. Пытанне аб недаверы ўраду: Ганчар, Шушкевіч — "за" недавер, Лябедзька — "супраць". Зацверджанне Агальца: Дабравольскі — "супраць", Клімаў —"за" (цяпер Клімаў увогуле выйшаў з фракцыі — трэба думаць, каб не хвалявацца за свой бізнес). Зацверджанне Віннікавай: Шлындзікаў запісаўся выступіць "за", але не далі — надта многа было жадаючых. Забаўная сітуацыя: намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі падтрымлівае кандыдатуру, супраць якой так рашуча выступае старшыня гэтай партыі — Багданкевіч. Што зробіш? — "Амкадору" жыць трэба.

"Грамадзянскае дзеянне", а тым больш сацыял-дэмакратычная фракцыя "Саюз працы" так імкнуцца спадабацца пракамуністычнай і прарасійскай большасці, што, здаецца, пачынаюць забывацца на свае асноўныя прынцыпы (калі яны ў іх ёсць). Гэтыя дзве фракцыі амаль фатальна баяцца, што іх назавуць апазіцыйнымі — у выніку яны ўжо мала чым адрозніваюцца ад іншых дэпутатаў.

Атрымалася, што тыя 20-25 % беларускіх грамадзян, якія на рэферэндуме выступалі супраць нават эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, а на парламенцкіх выбарах галасавалі за БНФ, у сённяшнім парламенце ніяк не прадстаўлены. Арыентуючыся на большасць, дэмакраты (хочацца ўжываць гэтае слова без ганебнай прыстаўкі "гэтак званыя") тым самым адрываюцца ад сваіх, напрыклад мінскіх, выбаршчыкаў, якія накіравалі іх у Вярхоўны Савет адстойваць незалежнасць і дэмакратыю.

***

Некаторыя ліберальныя публіцысты сёння пачалі актыўна перасцерагаць ад нараджэння беларускага радыкалізму. Але што застаецца рабіць той (і найбольш актыўнай) частцы беларускага народа, чые інтарэсы і ідэалы ні ў выканаўчых, ні ў заканадаўчых структурах ніхто не жадае абараняць? "Дзякуючы" сваёй нулявой палітыцы, Вярхоўны Савет у свядомасці многіх людзей пераўтварыўся ў агульную шэрую масу, дзе ўсе апантана падтрымліваюць прэзідэнта. Які сэнс у існаванні парламента, што будзе толькі паслухмяна штампаваць і зацвярджаць рашэнні выканаўчай улады, выконваючы функцыю дэкаратыўна-бутафорскага органа для замежных назіральнікаў. Я не здзіўлюся, калі на наступным мітынгу побач з найпапулярнейшым лозунгам "Далоў Луку!" з'явіцца новы — "Далоў парламент!"



*Посахаў — прэзідэнту (з залы паседжанняў Вярхоўнага Савета): "Шэф, усё ідзе па плану"*



*Лідэр камуністаў Калякін лідэру фракцыі аграрыяў Гіруцю: "Ты тут дэмакратам не прыкідвайся"*



*"Мы, беларусы, з братняю Руссю"*

Зянон ПАЗЬНЯК

# Дурны шукае ворагаў, разумны – сяброў

Да якой бы культуры не належаў чалавек, з якога б народа ён не паходзіў, у жыцці ёсць агульныя для ўсіх вызначальныя каштоўнасці, якія выяўляюць маральную сутнасць чалавека. Адной з іх з'яўляецца Боскі дар — здольнасць суперажываць боль, гора, цярпенне іншага чалавека. Шчыра скажу, што для мяне гэтая якасць у чалавеку найгалоўнейшая. Калі няма душы і сэрца, розум — не памочнік.

У 80-х гадах, калі выпала магчымасць бліжэй пазнаёміцца з немцамі, мяне ўразіла тое, чаго я раней не ведаў, — як глыбока ў нямецкім грамадстве зайшоў працэс пакаяння за гітлераўскія злачынствы. Сапраўды, я бачыў людзей, якім сорамна і цяжка за грахі іншых, за грахі бацькоў. І яны, невінаватыя, неяк непрыкметна ўзялі крыж віны на сябе. І сапраўды, Бог памагае нямецкаму народу.

Што ў нас, у Беларусі, што ў Расіі? Другую сусветную вайну развязалі разам Сталін і Гітлер. Бальшавікі знішчылі ў ГУЛАГу дзесяткі мільёнаў невінаватых людзей. Мільёны пісалі даносы, мільёны былі стукачамі. І вось XX з'езд, XXII, Перабудова, Курапаты, распад СССР, адкрыццё праўды. Пакаяліся? Не. Чаму? Таму што Савецкі Саюз выйграў вайну. Зло стала нормай, нават гонарам. У чым каяцца?

Гэта добра, што быў пераможаны нямецкі фашызм. Але канчатковая перамога адбылася ў душах. І зрабілі гэта самі немцы.

А хто пераможа камунізм? Хто пераможа карозію душ на 1/6 зямной сушы? Тэнгіз Абуладзэ? Адно злачынства цягне за сабой іншае злачынства. Паводзіны бацькоў вызначаюць паводзіны дзяцей.

Венгрыя, Чэхаславакія, Афганістан. Дзесяць гадоў бруднай вайны. Ордэны, медалі, героі, інваліды. Заплаканыя маці. Некаторыя зрабілі са свайго гора прафесію. Пакаяліся? Не, не тыя, каго пасылалі забіваць. Усё грамадства?

Маўчанне. А тым часам, калі распачалі вайну, — у Афганістане было 15 мільёнаў жыхароў. На працягу вайны было забіта 1 мільён 400 тысячаў. Амаль 10 працэнтаў насельніцтва. Каго забівалі? Афганскіх паўстанцаў? Увесь свет ведае, каго, хто і як гэта рабілася.

Трэба стаць на калені і прасіць даравання. У Бога. Бо нашы людзі там ваявалі. Мы ўхвалялі, маўчалі. (Я не ўхваляў, але я член грамадства, маральная адказнасць ляжыць і на мне.)

Ічкерыя. Дзякуй Богу, мы — незалежная краіна, мы не ўдзельнічалі ў гэтай вайне. Але хіба можам мы, еўрапейцы, мы, народ, які прайшоў праз сталінскі і гітлераўскі генацыд, які ведае, што такое вынішчэнне, Чарнобыль, хіба можам мы зноў маўчаць, спакойна глядзець, як забіваюць мірных жыхароў, разбураюць вёскі і гарады, бамбяць паселішчы, знішчаюць чачэнскі народ! Хіба можна не падтрымаць яго маральна, не падняць свой голас у яго абарону, супраць масавых забойстваў, якія асудзіў увесь свет, а наша краіна падпісала і ратыфікавала ўсе міжнародныя дакументы па правах чалавека?

У Кракаве я наведаў чачэнскі інфармацыйны цэнтр. Не дай Бог нікому такой долі. У людзей, якія там працуюць, забілі ўсіх — бацьку, маці, жонку, дзяцей; дамы і сядзібы спаленыя. Яны працуюць над паратункам чачэнскіх дзяцей, моладзі, інтэлігенцыі ад смерці. Дзяцей размяркоўваюць па сем'ях у Інгушэціі і Дагестане; моладзь стараюцца ўладкаваць ва універсітэты і школы іншых краінаў, каб захаваць інтэлект, будучыню нацыі, і не азлобіцца ў вайне.

Кожны народ непаўторны, мае свае традыцыі і культуру, зямлю, якая яму дасталася ад продкаў. Кожны мае права на свабоду і можа сам вызначаць, як яму жыць. Кожны мае права і абавязак абараняць сваю радзіму і сваё жыццё. Гэта аснова цывілізаванага парадку ў свеце. Хіба Расія выкрасліла сябе з гэтага парадку? Чаго яна ўехала туды са сваімі танкамі, чаго развязала зноў брудную вайну?!

Карэнне жахлівага чачэнскага генацыду ў нафце, у мільярдных даходах расійскіх кампаніяў, прыбыткі якіх апынуліся пад пагрозай. Ці ведаюць нашыя маўклівыя людзі, якія глядзяць толькі расійскае тэлебачанне, што вытварае расійская тэрарыстычная армія ў Ічкерыі, абараняючы інтарэсы гэтых нафтавых кампаніяў? Відаць, не. Бо калі б ведалі, то з іх грудзей пачуўся б стогн жаху і ўтрапення.

Чачэнцы, апынуўшыся зноў перад небяспекай поўнага вынішчэння, бароняць сваё жыццё і народнае існаванне. Іх паставілі ва ўмовы, калі ўсе сродкі прыдатныя для абароны свайго жыцця, бо справядлівасць за імі. (Аналагічная сітуацыя адлюстравана і ў крымінальным заканадаўстве, калі чалавек, баронячыся ад забойцы, забівае яго. Суд на баку таго, на каго напалі.)

Кожны народ варты павагі. Паважаць народ — значыць паважаць і асобаў, якіх ён шануе як нацыянальных герояў. Гэтую простую ісціну разумеюць у Савеце Еўропы, дзе трагічная смерць Джахара Дудаева была ўшанавана хвілінай маўчання. Гэта разумеюць у Польшчы, ва Украіне, дзе імем Дудаева названы нават вуліцы. Гэта разумеюць усюды, дзе ёсць культура і дзе сэрцы ў людзей не пабрасталі шэрсцю. Гэта разумеюць і ў Беларусі, дзе ўвогуле ставяцца паважна да смерці чалавека. Але, на жаль, савецкі чалавек ёсць савецкі чалавек. Ён усё ацэньвае з пазіцыяў нянавісці. Людзі прафесійна пішучыя і як быццам інфармаваныя і тут не пагрэбавалі прадэманстраваць сваю нізасць. Самы важкі аргумент нянавісці — Дудаеў разагнаў парламент. А калі б не дай Бог гнюсна забілі Ельцына, які таксама разагнаў парламент, зрабіў значна больш зла, чым Дудаеў, і да таго ж не з'яўляецца нацыянальным героем — вы б таксама абурыліся хвілінай маўчання? Калі так, то гэта, панове, дзікунства. Гэта псіхалогія варвараў. Калі не, то логікі тут няма. Застаецца толькі матывацыя савецкага чалавека — "ненавижу всех врагов".

*Адносіны да іншых — гэта адносіны і да сябе. Давайце шукаць не ворагаў, а сяброў. Ворагі нас знойдуць самі.*

Я ўжо не кажу, што чачэнцы — гэта народ сваістай культуры, традыцыяў і ўзаемаадносінаў, якія ў іх маюць мацнейшы грунт, чым еўрапейскія традыцыі парламентарызму і дэмакратыі. Нельга адной меркай мераць брытанцаў і чачэнцаў, бо адна справа ў чачэнцаў, іншая — у брытанцаў. Мерайце Дудаева ацэнкамі і меркамі чачэнскага народа, а не з пазіцыяў сваёй палітычнай абмежаванасці.

Пасля падпісання 2 красавіка пакта Лукашэнкі — Ельцына распачатыя працэсы ціхай акупацыі Беларусі. Адпрацоўваецца першы этап анексіі, абазначаны ў тэксце Лукашэнкаўска-Ельцынскай дамовы. Гэтую новую рэальнасць мы ўжо перажываем з 26 красавіка. Сутыкненне грамадства з лукашэнкаўскім рэжымам і расійскай імперскай палітыкай на Беларусі непазбежнае. Яно ўжо пачалося. Калі нашае грамдства не будзе мець правільных арыенціраў у ацэнцы расійскай палітыкі і, перш за ўсё, у разуменні сутнасці расійска-чачэнскай вайны, яно будзе асуджана на неадэкватныя рэакцыі і ў канчатковым выніку можа прайграць змаганне з расійскім імперыялізмам і антынародным рэжымам у Беларусі.

Як гэта не сумна, але чачэнцы фактычна цаной сваёй крыві расплюшчваюць вочы іншым на змест і сутнасць імперскай палітыкі Масквы. Калі казаць аб'ектыўна, то яны змагаюцца і за нашу свабоду.

Іяшчэ аб тым ды гэтым. Палітычныя дзеянні — гэта заўсёды дзеянні на перспектыву, разлічаныя на пэўны час. Дзеянне павінна мець акцэнт. Інакш яно не будзе працаваць. Акцэнт аб немінучым (як было заяўлена праз два гады) распадзе СССР і забароне КПСС быў зроблены намі ў 1989 годзе на прамым эфіры тэлебачання. (Вельмі цікавай была рэакцыя публікі і КПБ.) Акцэнт працаваў якраз два гады. За гэты час усе вызначыліся і выказаліся. Камуністы мільён разоў паведамілі, што гэта "чушь" і г.д. Акцэнт аб сталінізме быў пастаўлены 3 чэрвеня 1988г. артыкулам "Курапаты — дарога смерці" (хаця да гэтага было шмат чаго). Акцэнт аб рускім імперыялізме і яго небяспецы быў пастаўлены тры гады таму публікацыяй артыкула. (Дзеянне яго яшчэ не вычарпана.) Можна шмат пра што расказаць, але не варта. Мяркую, што разам са зменай сітуацыі замест "пишущих совков" з'явяцца аналітыкі-прафесіяналы, якіх навучаць элементарна разумець, што такое палітыка.

Думаю, што праз паўгода-год, а то і раней, шмат хто яшчэ вернецца і да імперыі, і да Ічкерыі, і да Дудаева з тым жа пафасам, толькі з другога боку. Папера цярпіць, а караван ідзе.

Мы не можам не разабрацца, што адбываецца ў свеце, бо свет адзіны. Нельга быць абыякавымі да гора, пакутаў і бяды іншых людзей. Інакш мы застанемся ў адзіноце, пагарджаныя, і ніхто не дапаможа нам. Успомнім пра нашы традыцыі. Адносіны да іншых — гэта адносіны і да сябе. Давайце шукаць не ворагаў, а сяброў. Ворагі нас знойдуць самі.

*Варшава*

# Сілавыя метады заганяюць палітычныя канфлікты ў хранічную форму

***На абшарах былога СССР любяць наступаць на адныя і тыя ж граблі. Замест таго, каб шукаць кансенсус у грамадстве, улады часцей за ўсё спрабуюць навязаць сваю волю сілай. Красавіцкія падзеі ў Мінску сведчаць пра тое, што прэзідэнт Лукашэнка ўпэўнены: аднадумства ў Беларусі можна забяспечыць сілаю***

На постсавецкіх абшарах такая самаўпэўненасць ужо не раз прыводзіла да кровапраліцця і станавілася прычынаю зацяжных ваенных канфліктаў. З рэаліямі нашага сённяшняга палітычнага жыцця шматлікія асацыяцыі выклікае сітуацыя ў Таджыкістане напярэдадні грамадзянскай вайны.

Як і ў нас, падчас распаду СССР кіруючая наменклатура камуністычнай партыі ў Таджыкістане сутаргавата ўчапілася за ўладу, але павяла сябе больш агрэсіўна — у верасні 1991 г. падкантрольны ёй Вярхоўны Савет абвясціў надзвычайнае становішча. Фармальнай падставай для гэтага стаў знос помніка Леніну ў Душанбе. Аднак было ясна, што, карыстаючыся надзвычайным становішчам, улады хацелі задушыць апазіцыю, якая патрабавала прыпыніць дзейнасць камуністычнай партыі і пачаць расследаванне сувязяў таджыкскіх наменклатуршчыкаў з маскоўскімі ГКЧПістамі. Пад ціскам прыхільнікаў апазіцыі ўлады вымушаныя былі адступіць — адмяніць надзвычайнае становішча, прызначыць выбары прэзідэнта і нават змяніць назву камуністычнай партыі на сацыялістычную. Аднак наменклатура хутка вярнула страчаныя пазіцыі. Ужо ў студзені 1992 г. была аднаўленая назва камуністычнай партыі, а на яе з'ездзе прагучалі заклікі пачаць адраджэнне СССР з Таджыкістана. Улады пачалі бесцырымонна парушаць статус недатыкальнасці дэпутатаў і абмяжоўваць свабоду друку. Міністра ўнутраных справаў, які адмовіўся аддаць загад аб разгоне мітынгу, абвінавацілі ў змове. Спецыяльнага карэспандэнта газеты "Известия" паспрабавалі выслаць з краіны. Адначасова была распачата інфармацыйная вайна супраць апазіцыі. Карыстаючыся манаполіяй на распаўсюджванне інфармацыі і тым, што еўрапейцы мелі даволі цьмянае ўяўленне пра сітуацыю ў краіне, афіцыйная прапаганда абвінаваціла апазіцыю ў спробе ўчыніць ісламскую рэвалюцыю. Але ідэолагі апазіцыі ў адзін голас абвяшчалі, што іхняя мэта — стварэнне парламенцкай прававой дзяржавы свецкага тыпу.

З 1 сакавіка 1992 г. на адной з плошчаў таджыкскай сталіцы Душанбе пачаўся мітынг апазіцыі, а з 26 сакавіка на іншай плошчы — контрмітынг у падтрымку ўрада. На сорак чацвёрты дзень супрацьстаяння на бок апазіцыі перайшла частка супрацоўнікаў МУС, КНБ і часці прэзідэнцкай гвардыі. З правінцыі прыязджалі ўзброеныя людзі. Пачаліся баявыя сутыкненні. Прэзідэнт Р.Набіеў 7 траўня 1992 г. дэмабілізаваў сваю гвардыю, але не здолеў абяззброіць яе. Апазіцыя і ўлады дасягнулі пагаднення,' але ўжо было позна — узброеныя людзі разышліся па гарадах ды кішлаках і там пачаліся баі паміж прыхільнікамі розных палітычных плыняў. МУС і КНБ у некаторых выпадках спрабавалі выступаць у якасці міратворцаў, аднак без поспеху. З цягам часу насельніцтва было ўцягнута ў грамадзянскую вайну, якая ўжо мае страшэнныя вынікі — загінулі тысячы людзей, значная колькасць грамадзян Таджыкістана вымушаная была падацца ў бежанцы. Усё палітычнае жыццё краіны зведзенае да аднаго — як спыніць вайну.

У выніку таго, што ўлада прызнавала ў якасці аргумента толькі сілу і рэпрэсіі, пацярпелі ўсе. Тыя палітыкі, што зрабілі стаўку на сілу, вымушаныя былі адмовіцца ад улады. Грамадзяне, якія ацалелі ў вайне, страцілі не толькі супакой, але і магчымасці для нармальнага жыцця. Апазіцыя вымушаная весці партызанскую вайну. Няма шчасця і ў тых, хто прыйшоў да ўлады. Сам прэзідэнт Таджыкістана прызнае, што ўзаемаадносіны яго краіны з Расіяй "крыху незвычайныя" для дачыненні паміж дзвюма суверэннымі краінамі. Справа ў тым, што мяжу ахоўваюць расійскія памежныя войскі, якімі камандуюць расійскія афіцэры. Але ўкамплектаваныя падраздзяленні гэтых войскаў працэнтаў на восемдзесят салдатамі-таджыкамі. Акрамя таго, у краіне размешчана 201-я дывізія расійскай арміі. Асобныя батальёны з Казахстана, Кіргізіі і Узбекістана ствараюць атмасферу інтэрнацыянальнай заклапочанасці. Як і заўсёды, на ахопленых партызанскай вайной землях цяжка вызначыць, хто кантралюе пэўную тэрыторыю. Карацей кажучы, кепска ўсім, і ніхто не ведае, як скончыць братазабойчую вайну, памірыцца. А пачалося ўсё з таго, што ўлада была ўпэўненая, што дасягне ўсяго сілаю...

**Алег АСІПОВІЧ**

СПОРТ

# Лепшыя за ўсіх у Еўропе – беларусы

**СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА**

Выдатнага поспеху дасягнулі беларускія гімнасты на чэмпіянаце Еўропы ў сталіцы Даніі Капенгагене. Спачатку яны пасля працяглага лідэрства саступілі расіянам каманднае першынство і заваявалі бронзавыя медалі (на папярэднім чэмпіянаце два гады таму нашыя былі чэмпіёнамі). А потым бліскуча адыграліся ў асабістых спаборніцтвах. Абсалютны чэмпіён Еўропы-94 мінчанін Іван Іванкоў зноў перамог у мнагаборстве. Яго галоўным канкурэнтам быў іншы мінчанін — шасціразавы алімпійскі пераможца Віталь Шчэрба, які саступіў Іванкову толькі 0,024 бала. Бронзавым медалістам стаў масквіч Аляксей Варапаеў. Свой запас медалёў Іванкоў і Шчэрба папоўнілі, выступаючы ў фіналах на асобных снарадах, дзе Віталь стаў наймацнейшым у вольных практыкаваннях, на брусах і ў апорным скачку.

Выступленне беларусаў на еўрачэмпіянаце, як і на нядаўнім першынстве свету на асобных снарадах у Пуэрта-Рыка, дае нам важкія падставы чакаць алімпійскіх медалёў у Атланце. Якой вартасці і ў якой колькасці — мы даведаемся праз два з паловаю месяцы.

**ТЭНІС**

Пакуль самага вялікага поспеху дамаглася мужчынская каманда Беларусі ў розыгрышы Кубка Дэвіса. У другой групе еўра-афрыканскай зоны (гэта трэцяя ліга сусветнага тэніса) яны ў гасцях абыгралі суперніқаў з Люксембургу — 4 : 1. Цяпер беларусы сустрэнуцца з камандай Польшчы на яе полі. Перамога будзе раўназначная выхаду ў першую групу.

А наймацнейшыя тэнісісты свету працягваюць разыгрываць буйныя доларавыя прызы. На адкрытым чэмпіянаце Італіі ў Рыме галоўная сенсацыя адбылася задоўга да фіналу, калі 15-гадовая Марціна Хінгіс з Швейцарыі абыграла першую ракетку свету немку Штэфі Граф, а румынка Ірына Спірля — яшчэ адну тэнісную лэдзі Аранту Санчэс з Іспаніі. А наймацнейшай стала іншая іспанка — Канчыта Марцінес, якая ў фінале была мацнейшай за Хінгіс. Нічога дзіўнага — Канчыта ў сусветным рэйтынг-спісе стаіць трэцяй — пасля Граф — Селеш і Санчэс. А Штэфі Граф можа суцешыцца тым, што ўстанавіла ўнікальны рэкорд — 332 тыдні запар яна стаіць на пачатку спіса наймацнейшых тэнісістак планеты. Папярэдняе дасягненне належала знакамітай Марціне Наўраціլавай — 331.

Зусім нечакана скончыўся турнір у Гамбургу, дзе 143-я ракетка свету Раберта Карэтэра з Іспаніі абыграў цэлую групу тэнісістаў сусветнага класу — амерыканца Вашынгтона, француза Беча, аўстрыйца Шалера, расіяніна Кафельнікава — і ў фінале перамог свайго вопытнага суайчынніка Алекса Карэтху.

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

Калі амерыканцы — самая аўтамабільная нацыя свету, то беларусы — самая хадзячая. Гэта даказалі нашыя хадакі на розыгрышы Гран-пры ў Германіі. Віктар Гінько выйграў спаборніцтвы на дыстанцыі 50 км, а Яўген Місюля апярэдзіў канкурэнтаў на 20-кіламетровай трасе. Абодва яны — нашыя алімпійскія спадзяванні.

**ФУТБОЛ**

Кубак уладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін упершыню за сваю 36-гадовую гісторыю накіраваўся ў Парыж. У фінальным матчы "Пары Сен-Жэрмен" з мінімальным лікам — 1 : 0 — адолеў "Рапід" са сталіцы Аўстрыі. Венцы выглядалі значна слабейшымі за парыжан, і гол у іхнія вароты, які забіў са штрафнога цёмнаскуры абаронца ПСЖ Бруна Н'Гоці, стаў заканамерным увасабленнем перавагі французаў.

"Барусія" з Дортмунда другі год запар выйграе чэмпіянат Германіі, прычым датэрмінова. Іх галоўны канкурэнт — мюнхенская "Баварыя" — прайграла два матчы запар і адстае за тур да сканчэння турніру ад "Барусіі" на 4 ачкі.

Капітан самага знакамітага англійскага клуба "Манчэстэр Юнайтэд" француз Эрык Кантана дакладным ударам на 85-й хвіліне прынёс перамогу сваёй камандзе ў фінале Кубка Англіі над "Ліверпулем". Трохі раней манчэстэрцы сталі і чэмпіёнамі Англіі. Такім чынам, ім удаўся пераможны дубль, як і ў мінулым годзе.

Пасля гадавога перапынку наймацнейшымі ў Італіі сталі футбалісты "Мілана". Тым самым яны "падсаладзілі пілюлю", атрыманую ад французскага "Бардо" ў Кубку *UEFA*.

Чэмпіёнам Францыі ўпершыню стаў "Асер", які заадно выйграў і кубак краіны.

Уладальнік Кубка чэмпіёнаў-95 і фіналіст сёлетняга амстэрдамскі "Аякс" атрымаў упэўненую перамогу ў чэмпіянаце Галандыі. У новым сезоне "Аякс" чакаюць буйныя страты: у "Мілан" прададзеныя Райцыгер і Давідс, а Клюйверт, верагодней за ўсё, сядзе ў турму за ненаўмыснае забойства чалавека ў аўтамабільнай аварыі.

Паўфіналы Кубка Беларусі сталіся здзіўляючымі і лёсавызначальнымі. У іх сышліся чатыры лепшыя на сёння футбольныя клубы краіны. Але ў Мінску на матчы дзвюх дынамаўскіх каманд барацьбы не атрымалася. "Дынама" аказалася на галаву вышэй за "Дынама-93" — 4 : 0. А вось гульня ў Мазыры атрымалася незвычайнай. Госці — футбалісты мінскай "Атакі-Аўры" — больш валодалі мячом, часцей атакавалі, але на 33-й хвіліне прайгравалі МВКЦ — 0 : 4! Аддадзім належнае мінчанам: яны не склалі крылы, а працягвалі змагацца, да перапынку скарацІўшы ўдвая галявы дэфіцыт — 2 : 4. Фінальны свісток зафіксаваў незвычайны вынік — 5 : 4 на карысць мазыран. Цяпер стала ясна, што Беларусь у Кубку *UEFA* прадстаўляць два "Дынама", у Кубку кубкаў — МВКЦ, у Кубку Інтэртата —"Атака-Аўра".

**ХАКЕЙ**

Толькі хакеісты "Пітсбург Пінгвінз", на чале якіх стаяць Марыё Лем'ё і Ярамір Ягр, даволі хутка забяспечылі сабе месца ў паўфінале, абыграўшы ў серыі матчаў "Нью-Йорк Рэйнджэрс" — 4 : 1. Тры іншыя дуэты за гэта жорстка змагаюцца. "Калерада" вядзе супраць "Чыкага" — 3 : 2, а ў серыях "Флорыда" — "Філадэльфія" і "Сэнт-Луіс" — "Дэтройт" лік пакуль нічыйны — 2 : 2. Нагадаем, што пераможцам серыі лічыцца каманда, якая першай дасягне чатырох перамог.

**БАСКЕТБОЛ**

І ў *NBA* — пара чвэрцьфіналаў. "Сіэтл" некалькі сенсацыйна тройчы запар абыграў чэмпіёна двух апошніх год "Х'юстан" (каманда Аладж'ювона і Дрэкслера). "Арланда" (лідэр — знакаміты Шакіл О'Ніл) выйграе ў серыі ў "Атланты" — 2 : 0, "Юта" (лідэры — алімпійскія чэмпіёны Карл Мэлоўн і Джон Стоктан) — у "Сан-Антоніа" — 2 : 1. Фаварыты чэмпіянату —"Чыкага Булз" (Джордан, Родман, Піпен, Кукач) — аддалі адзін матч камандзе Патрыка Юінга "Нью-Йорк", але перад гэтым двойчы перамаглі. І тут барацьба вядзецца да чатырох перамог.

**ШАХМАТЫ**

Гросмайстарскі турнір мінскага шахматнага фестывалю прынёс перамогу 23-гадоваму міжнароднаму майстру з Мінска Аляксею Аляксандраву — 7,5 ачка з 11. Пры гэтым ён выканаў норму міжнароднага гросмайстра. Але каб атрымаць гэтае званне, Аляксею давядзецца зрабіць гэта яшчэ раз у іншым турніры.

Анатоль Карпаў і Гата Камскі разыграюць карону чэмпіёна свету па версіі *FIDE* ў матчы з 20 партый. Пераможцам будзе прызнаны той, хто раней за суперніка набярэ 10,5 ці 11 ачкоў. У выпадку нічыйнага зыходу матч працягнецца да першай перамогі любога з удзельнікаў. Пераможца атрымае 62,5 % прызавога фонду, той, хто прайграе, — 37,5 %. Увесь фонд складзе 2 мільёны долараў, з якіх 500 тысяч шахматысты перададуць дзецям Калмыкіі. Менавіта ў сталіцы гэтай рэспублікі Эліс-це і адбудзецца матч.

**Сямён ПЛОЦ**

ФАКТ ЁСЦЬ ФАКТ

# Свабода слова на платах і сценах

**У камуністычныя часы пра свабоду слова ніхто ў нас не заікаўся. За анекдот маглі пасадзіць у турму, усе газеты былі "органамі", ды яшчэ цэнзура не драмала. Народу заставалася выказвацца на сценах прыбіральняў, калі ніхто не бачыць.**

З-за гэтых насценных надпісаў цяжка было паверыць, што рускай мовай карысталіся таксама Пушкін ды іншыя класікі. Цяпер, пасля 4-5 гадоў сякой-такой беларусізацыі, мацюкі зніклі са сцен. Затое можна, напрыклад, убачыць шчыранаіўную фразу *"Люблю Беларусь"* (у Гродне, на мастку над чыгункай у беластоцкім напрамку). Або —*"Жыве Беларусь!"* (У адным месцы нехта скептычна напісаў побач: *"Ды хіба ж гэта жыццё?"*)

Адным словам, калі ў газетах дазволілі нарэшце пісаць пра ўсё, насценныя пісакі крыху разгубіліся. Іхні рэпертуар адразу вельмі збяднеў: *"Ира + Коля"*, *"AC/DC"*, *"Витя Цой, мы тебя любим"*.

Але варта было ўладам зноў закруціць гайкі, як пачалі падаць тыражы афіцыйных газет, а голас народа загучаў на мітынгах і дэманстрацыях. А таксама са сцен дамоў. Часам у форме парады: *"Прэзідэнт, аб'яднайся з жонкай, а не з Расіяй!"* Або ў выглядзе карыкатуры — двухгаловы расійскі арол, які мае дзве вельмі знаёмыя беларусам вусатыя фізіяноміі і цікавы подпіс — *"чарнобыльскі мутант"*. Такі плакат неслі маніфестанты "Чарнобыльскага шляху".

Калі сказаць папраўдзе, дык першы крытычны надпіс пра Лукашэнку паявіўся на мінскай акружной дарозе (на ўсю шырыню асфальта) яшчэ ў прэзідэнцкую кампанію. Потым народ, нібы знявечыўшы ад вынікаў тых выбараў, прыглядаўся да свайго абранніка. І вось днямі я бачу ў Мінску грэблівае *"Лукашенко, иди в колхоз!"* А ў іншым месцы і увогуле лаянку — *"Л... — быдла"*. Як кажуць, народ ведае сваіх герояў! Нездарма ж мінская моладзь 26 красавіка, вяртаючыся з мітынгу па праспекту Машэрава, дружна скандзіравала: *"Лукашенко — в ж..., Беларусь — в Европу!"* А як паведамляюць з Гродна, там на сценах паявіліся іншыя надпісы, напрыклад *"Лукашэнка — вон з Беларусі!"* Насценны "друк" называе яго таксама чамусьці *"палачом"*. А насупраць турмы напісана яшчэ цікавей. *"Камеру — Лукашенко"*. Надпіс зацёрты, але досыць няздбайна, таму цалкам чытэльны.

Што ў гэтай сітуацыі можна параіць крытыкаванаму боку? Лепш за ўсё зноў дазволіць пісаць аб усім у газетах, тады сцены стануць непатрэбныя. Але такі варыянт, як я разумею, для нашага кіраўніцтва непрымальны. Тады застаецца толькі заняцца антыпрапагандай. Напрыклад, калі вы бачыце, што на сцяне напісана *"Лука — дурак"*, трэба закрэсліць апошнія слова і напісаць побач — *"умный"*. Не лішнім будзе і прапанаваць свае, станоўчыя надпісы. Можна ўзяць гатовыя "Мудраслоўі" на тэму "Ленін. Партыя. Сацыялістычнае будаўніцтва" са зборніка, выпушчанага выдавецтвам БДУ ў 1983 г.: *"Ленін навучыў і беларус зажыў"*, *"Слова Леніна — слова народа"*, *"Нам не страшна нідзе, бо нас партыя вядзе"*, *"Як старшыня розум мае, дык і калгас з урадживаем"* і г.д. Трэба толькі Леніна ды іншыя ключавыя словы замяніць... А што рабіць? Улады ў нас вельмі крыўдлівыя. Праблема ж насценных надпісаў існуе ва ўсім свеце. Але пакуль ніхто не дадумаўся змагацца з гэтымі пісакамі метадам антыпрапаганды.

**Мікола БОГУШ**

# Скандал: кинозвезда не смогла дозвониться президенту

Кинозвезда Деми Мур позвонила на днях президенту Билли Клинтону, чтобы лично попросить его о помощи — дать указание военному ведомству оказать содействие в съемках приключенческого фильма "Солдат Джейн". В нем Мур играет бойца антитеррористического отряда "Морские котики", а поскольку в реальной жизни в элитном подразделении ВМС США женщин нет, Пентагон не спешит помочь постановщику картины режиссеру Ридли Скотту ("Тельма и Луиза").

Помощники Клинтона даже не доложили ему о звонке актрисы. И напрасно: на следующий день все американские средства массовой информации только и говорили о том, как Деми не смогла достучаться до президента.

Политическим деятелям, в том числе нынешнему главе Соединенных Штатов, среди спонсоров избирательной кампании которого немало видных деятелей Голливуда, не пристало игнорировать кинозвезд. Очевидно, этим объясняется незамедлительная реакция Клинтона на данный инцидент: через своего пресс-секретаря он сообщил, что попросил Пентагон о "добром сотрудничестве" со съемочной группой.

Интересно, что муж Деми актер Брюс Уиллис никогда не скрывал своих консервативных взглядов и на прошлых выборах поддерживал соперника Клинтона — тогдашнего президента-республиканца Джорджа Буша.

*PostFactum*





Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 41.000
Нумар падпісаны ў друк 13.05.96 (11.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 237